**Гродна**
№13 (471),
18 чэрвеня 2017

www.slowo.grodnensis.by


# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Пілігрымковае лета 2017

**РАСПАЧЫНАЕЦЦА ЛЕТНІ СЕЗОН ПІЛІГРЫМАК. ШМАТЛІКІЯ ВЕРНІКІ ВЫРУШАЮЦЬ ДА СВЯТЫХ МЕСЦАЎ, КАБ ПАДЗЯКАВАЦЬ БОГУ ЗА ПРАЖЫТЫ ЧАС І ВЫМАЛІЦЬ НЕАБХОДНЫЯ ЛАСКІ ДЛЯ СЯБЕ І БЛІЗКІХ. ЧАМУ ВАРТА ДАЛУЧЫЦЦА ДА ПІЛІГРЫМАЎ? ЯКУЮ КАРЫСЦЬ ВАНДРОЎНІКІ ВЫНОСЯЦЬ З ПАДАРОЖЖА? І, ГАЛОЎНАЕ, ШТО ЗА МАРШРУТЫ ПРАПАНУЮЦЦА З НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ?**


● працяг на с. 4–5


## Каляндар падзей

***23 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў. Не абавязвае ўстрыманне ад мясных страў.*

***24 чэрвеня***
*Урачыстасць нараджэння св. Яна Хрысціцеля.*

***29 чэрвеня***
*Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*За разбітыя сем'і з нашай дыяцэзіі.*
*Аб захаванні сужэнцамі і бацькамі вернасці свайму пакліканню.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск у жніўні.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Не бойцеся сведчыць пра Хрыста". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 9, 36–10, 8**

Езус, убачыўшы натоўпы людзей, злітаваўся над імі, бо яны былі знясіленыя і пакінутыя, нібы авечкі, якія не маюць пастыра. Тады Ён кажа вучням сваім: "Жніво вялікае, ды работнікаў мала; дык маліце Гаспадара жніва, каб выслаў работнікаў на жніво сваё". І, паклікаўшы дванаццаць вучняў сваіх, Ён даў ім уладу выганяць нячыстых духаў і лячыць усялякую хваробу і ўсялякую немач. Імёны ж дванаццаці Апосталаў былі такія: першы Сымон, называны Пятром, і Андрэй, брат яго, Якуб Забядзя і Ян, брат ягоны, Філіп і Барталамей, Тамаш і Мацвей мытнік, Якуб Алфееў і Тадэвуш, Сымон Кананіт і Юда Іскарыёт, які і здрадзіў Яго. Гэтых дванаццаць паслаў Езус, наказваючы ім: "На шлях паганцаў не ідзіце і ў гарады самарыйскія не ўваходзьце. Найбольш ідзіце да авечак з дому Ізраэля, якія загінулі. А ідучы, абвяшчайце, кажучы: «Наблізілася Валадарства Нябеснае». Хворых аздараўляйце, мёртвых уваскрашайце, пракажоных ачышчайце, злых духаў выганяйце. Дарма атрымалі, дарма і давайце".

### ЧАГО ПРАГНЕ АД НАС ХРЫСТОС?

Пан Езус сказаў Апосталам: "Хворых аздараўляйце, мёртвых уваскрашайце, пракажоных ачышчайце, злых духаў выганяйце". Ці гэтыя словы адносяцца толькі да тых вучняў, якія былі Яго слухачамі, ці таксама да цяперашніх вучняў Хрыста – нас, веруючых?

На сённяшні дзень даслоўна рэалізаваць той наказ Пана немагчыма. Чаму? Нягледзячы на велізарны прагрэс медыцыны XXI стагоддзя застаецца шмат невылечных хвароб. Толькі спецыяльна вызначаныя біскупам святары, якіх называюць экзарцыстамі, моцаю Езуса Хрыста могуць выгнаць злога духа з чалавека. Ніхто, апрача Бога, не можа ўваскрасіць памерлага.

Але ці гэтага хоча ад нас Езус? Ён жадае, каб мы абвяшчалі Божае Валадарства, якое надыходзіць, сваім прыкладам: словамі, учынкамі. Тады сам Хрыстос праз нас будзе вылечваць хворых з граху, ачышчаць сэрцы з нянавісці і зайздрасці, выганяць дэмана пыхі, уваскрашаць духоўна памерлых нявольнікаў зла.

**XII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 10, 26–33**

Езус сказаў сваім Апосталам: "Не бойцеся людзей, бо няма нічога схаванага, што б не адкрылася, і нічога патаемнага, што б не стала вядомым. Што кажу вам у цемры, гаварыце на святле, і што на вуха чуеце, прапаведуйце на дахах. Не бойцеся тых, хто забівае цела, душы ж не могуць забіць; а бойцеся больш таго, хто можа і душу, і цела загубіць у геене. Ці ж не два вераб'і прадаюцца за ас? І ніводзін з іх не ўпадзе на зямлю без волі Айца вашага. У вас жа і валасы на галаве палічаны. Таму не бойцеся: вартыя вы больш за многіх вераб'ёў. Так кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, і Я прызнаю перад Айцом Маім, які ў нябёсах. А хто адрачэцца ад Мяне перад людзьмі, ад таго і Я адракуся перад Айцом Маім, які ў нябёсах".

### ШТО МОЖА БЫЦЬ БОЛЬШ ВАРТАЕ ЗА ВЕЧНАЕ ЖЫЦЦЁ?

Пан Езус адракаецца ад свайго вучня. Гэта найгоршае, што можа здарыцца з вызнаўцам Хрыста. Страта вечнага збаўлення з'яўляецца стратай усяго: паклікання, шчасця, сэнсу жыцця. Такога і ворагу не пажадаеш.

Калі тая страшная рэчаіснасць магчыма? Тады, калі чалавек адракаецца ад Хрыста. Аднак не ў той момант, калі дэкларуе сваё рашэнне словам, а калі пакідае свайго Пана і замест Яго выбірае кагосьці ці штосьці іншае. Ставіць на першае месца грошы, кар'еру, рэч ці блізкую асобу, пра якую дбае больш, чым пра сувязь з Езусам. Не прыходзіць на св. Імшу ў нядзелю ці свята, затое ахвотна праводзіць час перад экранам тэлевізара ці камп'ютара або на пікніку. Нельга яднацца з Хрыстом без адрачэння ад таго, што належыць свету. Няўжо тэлевізары і пікнікі больш вартыя за вечнае жыццё?

*Кс. Павел Эйсмант*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вырушыць у дарогу!

*Пачалося лета – перыяд водпускаў і канікул. У гэты час у найбольш вядомыя месцы культу Беларусі – Будслаў, Тракелі, Навумавічы, Навагрудак, Рось – з нашай дыяцэзіі накіроўваюцца шматлікія пілігрымкі. Людзі перажываюць цудоўную нагоду спакойна і ўраўнаважана абдумаць жыццё, праверыць сваю настойлівасць у пераадоленні штодзённых цяжкасцей дарогі, дасведчыць незвычайную атмасферу супольнасці.*

Амаль ад пачатку хрысціянства тыя, хто верыў і шукаў Бога, накіроўваліся ў святыя месцы, каб аднавіць сваю веру, атрымаць прабачэнне за грахі, знайсці дапамогу ў складаных жыццёвых сітуацыях. Там лягчэй адкрыцца на Бога, адчуць Яго асаблівае ўздзеянне, аднавіць такім чынам прыязнасць з Панам і блізкімі, што з'яўляецца крыніцай радасці жыцця. Падчас вандроўкі паломнікі атрымлівалі свята, якое ўказвала дарогу да Бога і сапраўднага шчасця.

Сёння Касцёл таксама заахвочвае вернікаў да пілігрымавання, таму што прагне прыгадаць, што з'яўляецца галоўнай мэтай жыцця чалавека. Сутыкнуўшыся з уласнай слабасцю, асоба пачынае разумець, што сапраўды важнае, што на самой справе мае сэнс. Неабходнасць змагацца са стомленасцю і маркотай паказвае чалавеку праўду аб ім самім, дае ўсведамленне таго, што схавана на дне яго сэрца.

Пілігрымка вучыць быць пакорным, шчодрым, любіць і клапаціцца пра бліжняга. Гэта выдатная нагода, каб разглядзець прыгажосць стварэння Богам свету і разнастайнасць чалавечай культуры. Гэта таксама незвычайны спосаб малітвы, ахвяры, адрачэння.

Такой форме развіцця духоўнасці прысвячаецца ўсё больш увагі, што выклікана тугой чалавека па сустрэчы з Богам. Пілігрымкі скіроўваюць думкі верніка да прыстанішча, у якое ён можа ўвайсці, ідучы па дарозе рэлігійных пошукаў, каб разам з псаломшчыкам выразіць свой голад і прагу Усемагутнага словамі: ***"Божа! Ты Бог мой, Цябе я шукаю ад золку; Цябе прагне душа мая, па Табе маё цела тужыць у зямлі пустой, высахлай і бязводнай, каб бачыць сілу Тваю і славу Тваю, як бачыў Цябе ў святыні: бо ласка Твая лепшая за жыццё" (Пс 63 [62], 2–4).***

**Дарагія Чытачы!**

Жыццё большасці з нас – гэта пастаянная гонка і неабходнасць вырашэння ўсё новых і новых выклікаў. Тэлефон, што нястомна звоніць, тэрміновыя паведамленні, шматлікая колькасць спатканняў на працягу дня пазбаўляюць чалавека перадышкі, што робіць жыццё ўсё больш складаным і стрэсавым. Каб пасля напружанай працы аддыхацца, суцішыць думкі і запаволіць тэмп, варта вырушыць у пешую пілігрымку.

Давайце добра выкарыстаем час, які нам дае Пан! Знойдзем магчымасць перажыць рэкалекцыі ў дарозе. Праз гэтую непаўторную атмасферу супольнасці, узаемапавагі, дапамогі, ахвярнасці ўпэўнімся ў Божай прысутнасці.




# Фацімскае заахвочванне да ўмілавання Езуса Эўхарыстычнага

***Часцей за ўсё гаворыцца, што Марыя ў Партугаліі прыгадала свету пра 3 важныя рэчы: малітву, пост і навяртанне. Аднак пасля глыбейшага аналізу Яе паслання заўважаем, што з Фацімы плыве таксама заклік да асаблівага ўшанавання і любові да Езуса ў Эўхарыстыі. Гэта вельмі важны наказ, які, на жаль, часта выпускаецца з-пад увагі.***



У 1916 годзе да 3-іх фацімскіх дзяцей некалькі разоў прыходзіў Анёл. Ён павінен быў падрыхтаваць іх да лепшага зразумення і перадачы паслання Марыі, якое, па сутнасці, з'яўляецца пасланнем Евангелля.

Падчас аднаго з аб'яўленняў Анёл упаў на калені і схіліўся да зямлі перад застыўшымі ў паветры келіхам і Гостыяй, адаруючы такім чынам Найсвяцейшы Сакрамант. Ён таксама даў выразны знак дзецям, каб зрабілі гэтак жа. Пастушкі імгненна выканалі наказ Божага Пасланніка і разам з ім тройчы прамовілі наступную малітву: ***"Найсвяцейшая Тройца – Айча, Сыне і Дух Святы – люблю Цябе з найглыбейшай пашанай і ахвярую Табе бясцэнныя Цела, Кроў, Душу і Боскасць Пана нашага Езуса Хрыста, прысутнага ва ўсіх табернаклях свету, як адплату за знявагі, святатацтва і абыякавасць, якія Яго зневажаюць. Праз невымерныя заслугі Яго Найсвяцейшага Сэрца і праз пасрэдніцтва Беззаганнага Сэрца Марыі малю аб навяртанні бедных грэшнікаў".***

Пасля па прыкладзе свайго нязвыклага Правадыра пастушкі штодзённа на працягу многіх гадзін, стоячы на каленях, узнагароджвалі Бога за зневажэнні, якія зазнае ў Найсвяцейшым Сакраманце.

Падчас наступнага аб'яўлення, ушаноўваючы Найсвяцейшую Гостыю, з якой у келіх сцякалі кроплі Крыві, Анёл сказаў: ***"Прыміце Цела і Кроў Пана нашага Езуса, якія цярпяць страшныя абразы ад няўдзячных людзей. Кайцеся за іх грахі і суцяшайце Бога нашага".*** Дзеці, ажыўленыя сапраўднай верай ва ўтоеную Боскасць Езуса ў Эўхарыстыі, упалі на калені перад Анёлам, які затым удзяліў ім св. Камунію.

Даверлівай і прыгожай любові да Хрыста ў Найсвяцейшым Сакраманце вучыць нас сама Марыя праз прыклад уласнага жыцця – пакорнага, поўнага веры, адданага Божай волі. Маці Збаўцы заўсёды скіроўвае людзей да свайго Сына, прагне весці да Яго. Такой была і мэта Яе аб'яўленняў у Фаціме. Папросім Марыю, Маці Эўхарыстыі, каб выпрасіла для нас ласку ўмілавання Найсвяцейшага Сакраманту, каб кожны нястомна чэрпаў з гэтай бясконцай крыніцы любові і міласэрнасці, беручы ўдзел у св. Імшы, прымаючы св. Камунію і як мага часцей наведваючы Хрыста ў касцёле.

**Пане Езу, ахвяруем Табе любоў Марыі, якая дапаўняе тое, чаго не хапае ў нашых сэрцах, каб маглі любіць Цябе ў Найсвяцейшым Сакрамэнце дасканалай любоўю Яе Беззаганнага Сэрца.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адкрыта і з радасцю прымаць пілігрымаў

**Ёсць прыгожыя прыказкі: “Госць у дом, Бог у дом”, “Дзе госць, там і Бог ёсць”. Сапраўды, мы павінны прымаць кожнага чалавека як самога Госпада, з адкрытым і шчырым сэрцам запрашаць у свой дом таго, хто стаіць на парозе. Гаворачы пра вандроўнікаў, якія шукаюць месца для начлегу, маем таксама на ўвазе пілігрымаў, якія штогод пераадольваюць дзясяткі і нават сотні кіламетраў да святых месцаў.**

**Тэрэза, удзельніца пілігрымкі Гродна – Тракелі**

*Кожная пілігрымка асацыіруецца ў мяне не толькі з доўгай дарогай, спякотным надвор’ем, апаленай скурай ды сцёртымі падэшвамі, але яшчэ з любячым і міласэрным Хрыстом. Яго сустракаю ў братах і сёстрах, што крочаць побач са мной, ды ў людзях, якія радасна вітаюць нас, пілігрымаў, і гасцінна прымаюць у сваіх дамах.*

*Зазвычай жыхары мясцовасцей, праз якія даводзіцца праходзіць, добразычліва сустракаюць словамі: “Чакалі вас цэлы год!”. Хоць ёсць, канешне, і тыя, хто ставіцца да пілігрымаў скептычна, са здзіўленнем глядзяць на натоўп, які весела з песнямі шпацыруе за крыжом.*

*Памятаю, у першай пілігрымцы мне здавалася крыху дзікім пастукацца ў дзверы да незнаёмых людзей, папрасіць дазволу памыцца ды пераначаваць (хоць і было вядома, што для гаспадароў гэта не будзе неспадзянкай, бо яны загадзя рыхтаваліся нас прыняць). З часам навучылася пераадольваць свой страх, бо зразумела, што не варта саромецца людзей, якія адкрываюць перад незнаёмцамі не толькі дзверы, але і свае сэрцы, з лёгкасцю ідуць на кантакт і шчыра запрашаюць у дом. Лічу, што такая гасціннасць людзей – сапраўдны і прыгожы жэст хрысціянскай міласэрнасці.*



Людзі сустракаюць пілігрымаў са слязамі на вачах: іх сэрца радуецца за адважных сведкаў веры




Сэрца пілігрыма насычаецца ў дарозе ўражаннямі аж да наступнай вандроўкі

**Іосіф, прымаў на начлег паломнікаў пілігрымкі Беласток – Гродна – Вільнюс**

*Чаму наша сям’я адкрылася на гэты досвед? Па-першае, мы забяспечаны нармальнымі жыллёвымі ўмовамі, таму маем такую магчымасць. Па-другое, выхоўваем дваіх дзяцей і хочам ім паказаць, што можна нечым падзяліцца з другім чалавекам. Даць месца для сну, пачаставаць сняданкам і ахвяраваць частку свайго вольнага часу не будзе шмат каштаваць. А ўсведамленне таго, што прынёс некаму карысць, падорыць радасць і станоўчыя эмоцыі. Гэтае дабро пасля абавязкова вяртаецца. Па-трэцяе, лічым, што такі жэст з’яўляецца сведчаннем веры. Прыняць у сваім доме пілігрыма нібы прыняць Хрыста. Акрамя ўсяго, знаёмства з новымі людзьмі, цікавыя размовы за кубкам гарбаты – гэта сёння як глыток свежага паветра.*

*Я думаю, што ўменне дапамагаць шмат можа сказаць пра чалавека, пра яго мараль, духоўную сталасць, узровень адказнасці. Таму вельмі важна навучыцца праяўляць сваю чалавечнасць і адкрытасць на патрэбы іншых людзей.*

**Малгажата, удзельніца пешай экуменічнай пілігрымкі Беласток – Гродна – Вільнюс**

*У пілігрымцы мне было дадзена сустрэць Езуса ў іншых людзях. Іх шчодрасць і гасціннасць уражвала. Хачу апісаць адно такое спатканне...*

*Маруся вельмі ўсцешана прыбыццём пілігрымаў. У яе старой, схіленай хатцы няма ніводнага прыгожага прадмета. Можа, толькі 3 келіхі для лікёру, у якіх падае нам кампот. Стол ломіцца ад ежы. Ёсць рыба, палядвіца, кабачковыя аладкі, налеснікі, памідоры. Вясвятляецца, што гэта Марусі мы павінны падзякаваць за тое, што дождж ліў толькі на працягу маленькага прамежку шляху, бо прасіла: “Пане Езу, не трэба, каб дажджыла. Ты ж ведаеш, што ідзе пілігрымка”. Маруся вучыць мяне цудоўнаму ў сваёй прастаце вершыку-малітве, які пачула яшчэ ад сваёй бабулі:*

*Праз вёску Пан Езус крочыў,*
*Ніводзін сабака Яго не ўкусіў.*
*А я ў імя Яго імкнуся,*
*Ніякіх сабак не баюся.*

*Маруся прытуляецца да мяне. Шпацыруем разам. У садзе стаіць вялікі драўляны крыж. Яна расказвае, што зямля тут была неўрадлівай, а потым паставілі крыж, ксёндз асвяціў яго, і цяпер маюць добры ўраджай. Увесь наступны дзень у дарозе малюся за Марусю і яе сям’ю...*

*З Вільні абяцала выслаць паштоўкі ўсім сем’ям, якія мяне прымалі. І аказалася, што Маруся запісала ў мой блакнот толькі інтэнцыі, а адрасу не пакінула. Я вельмі засмуцілася з-за гэтага. Прасіла Езуса, каб неяк дапамог. І здарыўся цуд. Маруся патэлефанавала мне праз 2 тыдні пасля пілігрымкі. Спыталася, як далейшая дарога. Я ўзяла яе адрас і выслала паштоўку з Маці Божай Вастрабрамскай ужо з Польшчы.*

*Ці ў гэтым годзе зноў буду начаваць у Марусі? Так, таму што мяне паланілі яе вера і любоў да бліжняга.*

*Кінга Красіцкая*



# Кожны з нас – пілігрым

Штодня мы крочым па знаёмым маршруце, дзе стартавай і фінішнай кропкай з’яўляецца дом. І ў кожнага ён свой непаўторны, але да болю родны. Час ад часу вытаптаная сцежка змяняецца новай дарогай: мы падарожнічаем, некуды выязджаем. І нават калі знаходзімся ў стане сну, не прыпыняемся. Як гэта? Зямля рухаецца вакол Сонца, а разам з ёй – і мы. Такім чынам штогадзінна пераадольваем шлях у Сусвеце працягласцю больш за 100 тысяч кіламетраў!

Мы заўсёды ў руху. Змяняюцца толькі накірункі шляху, якія прапаноўвае жыццё. Старанна імкнёмся прытрымлівацца правільнага курсу, але не заўсёды атрымліваецца... Выходзім за межы, спатыкаемся. Часам даводзіцца вырвацца наперад, а часам – спыніцца, каб некага прапусціць. Парою стаім на раздарожжы, не ведаючы, куды рухацца. Нягледзячы на гэта, у кожнага ўжо даўно пракладзены свой шлях паклікання. Усведамленне ўласнай місіі дапамагае не збочыць з гэтай дарогі.

Як і любы пілігрым, мы адчуваем смагу, прагнучы напіцца з крыніцы, зведваем стомленасць, жадаючы адпачыць. Але ўсё гэта хутка мінае, бо з’яўляецца часовым. У канцы падарожжа чалавек застанецца выключна з вынікам сваёй вандроўкі, пасля чаго ў яго непазбежна ўзнікнуць пытанні: ці задаволены я сваім шляхам? ці абапіраўся на мэту? увогуле, дзеля каго ці чаго я крочыў наперад? Каб потым не расчаравацца, варта ўжо зараз усур’ёз задумацца над тым, што нам не вядомы адрэзак вымеранага часу, а таму не мае сэнсу растрачвацца на дробязі. Трэба прызнаць, што калі б мы маглі лічыць жыццёвы шлях ад канца, усё было б зусім іначай...

*Ангеліна Пакачайла*

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Пан не можа абысціся без нас: Ён ніколі не стане Богам “без чалавека”. Упэўненасць у гэтым з’яўляецца крыніцай хрысціянскай надзеі.*

*Трэба мець адвагу, каб гаварыць Усявышняму “Ойча”. Гэта дасканала перадае літургія, падчас якой у запрашэнні да супольнага адгаворвання малітвы Езуса ўжываем фармуліроўку: “асмельваемся казаць”. На самой справе зварот да Бога па імені “Айцец” – гэта не штосьці само па сабе зразумелае. Мы схільныя ўжываць узнёслыя тытулы, якія здаюцца больш паважлівымі да Яго трансцэндэнтнасці. Але магчымасць называць Бога Айцом уводзіць нас у даверлівыя адносіны з Ім, на падабенства дзіцяці, якое звяртаецца да свайго таты, ведаючы, што ён любіць і клапоціцца.*

*Гэта вялікая рэвалюцыя, якую хрысціянства здзейсніла ў рэлігійнай псіхалогіі людзей. Таямніца Бога, які заўсёды ўражвае і дазваляе адчуць сябе малымі, не палохае, не прыгнятае, не падаўляе. Але гэта цяжка прыняць у чалавечую душу. Так цяжка, што нават у апавяданнях пра ўваскрасенне гаворыцца, што жанчыны, калі ўбачылі пустую магілу і анёла, “пабеглі... бо ахапіў іх страх і здзіўленне” (Мк 16, 8). Але Езус адкрыў, што Бог – гэта добры Айцец, і таму неаднаразова кажа нам: “Не бойцеся!”.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас агульнай аўдыенцыі, 07.06.2017*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Святы Дух умацоўвае вернікаў праз 7 сваіх дароў, чыніць іх жывымі святынямі і дапамагае быць сведкамі Хрыста ў сучасным бездухоўным свеце. Аднак для гэтага трэба дазволіць Яму праявіцца. Каб свежае паветра напоўніла наш пакой, неабходна адкрыць вокны. Падобна і каб подых Святога Духа быў адчувальны ў нашым жыцці, неабходна адкрыць вокны душы на Яго дзеянне.*

*Бог аб’яднаў нас у касцёльную супольнасць, дзякуючы якой атрымліваем Яго жыццё і затым нясём у свет. Аднак можам чыніць гэта толькі дзякуючы дзеянню Святога Духа – без Яго няма жыцця, Касцёл перамяняецца ў сухое поле. Святы Дух напаўняе супольнасць Божым подыхам, які сышоў у дзень Пяцідзясятніцы і прысутнічае далей, каб мы былі здольнымі да сапраўднага хрысціянскага жыцця і місіі абвяшчэння Евангелля ўсім народам з мэтай акунуць усё чалавецтва ў музыку сапраўднай любові.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, 04.06.2017*




◆ Згодна з вынікамі даследавання сацыяльнай службы “Цэнтр Разумкова” ва Украіне, сярод царкоўных іерархаў найбольшым даверам у мясцовага насельніцтва карыстаецца папа Францішак. За яго прагаласавала 37,7% рэспандэнтаў. Менш за ўсё людзі давяраюць Маскоўскаму патрыярху Кірылу: 42% апытаных выказала свой недавер главе Рускай праваслаўнай Царквы. Даследаванне праводзілася ва ўсіх рэгіёнах Украіны, акрамя акупіраваных тэрыторый. Апытана каля 2-юх тысяч чалавек ва ўзросце ад 18-ці гадоў.

◆ Здзейснілася мара маладых музыкантаў з бразільскіх фавэл – яны сыгралі ў Ватыкане перад Святым Айцом. Папа Францішак павінен быў пачуць аркестр “Maré do Amanhã” яшчэ падчас свайго візіту ў Рыа-дэ-Жанейра ў 2013 годзе, аднак дажджлівае надвор’е сапсавала арганізатарам планы. Доўгачаканая падзея адбылася толькі нядаўна. Каля 30-ці маладых людзей ва ўзросце 14–19 гадоў выступілі з канцэртам для пацярпелых ад нядаўніх землятрусаў з італьянскіх рэгіёнаў. На мерапрыемстве прысутнічаў і сам Пантыфік.

◆ 15 копій іконы Маці Божай Казанскай – найбольш шануемага ў Расіі аблічча Марыі – было прададзена на карысць дапамогі патрабуючым у Сірыі. Сродкі, сабраныя падчас аўкцыёну ў Непакалянове, былі перададзены ў польскую секцыю Папскага таварыства дапамогі Касцёлу ў патрэбе. Яшчэ адна копія захавана для містычкі Мірны Назур, якая жыве ў Сірыі. Па просьбе арганізатараў яна ўручыць сродкі тым, хто мае ў іх вострую неабходнасць.

◆ Кляўзуровыя сёстры з кляштара св. Клары ў Сардзініі рэвалюцыйна разрываюць з традыцыяй: паказваюць у інтэрнэце і СМІ, як выглядае іх жыццё. Нядаўна манахіні апублікавалі альбом з фатаграфіямі і падрыхтавалі выставу здымкаў, што дэманструюць іх штодзённасць. Заснавалі таксама блог кляштара і профіль у Facebook. Дзейнасць сясцёр абумоўлена рэзкім скарачэннем колькасці пакліканняў. “Мы не ламаем такім чынам нашы правілы, а паказваем людзям хто мы і як жывём”, – падкрэсліве ініцыятарка акцыі с. Марыя Катарына.

◆ “Вясельнае атэльe” праце пры кляштары ў італьянскім санктуарыі св. Рыты Касійскай (названа ў гонар набожнай жанчыны, якая ўступіла туды пасля смерці мужа і сыноў). Усё пачалося з таго, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя нявесты пачалі пакідаць там свае сукенкі ў падзяку за заступніцтва св. Рыты, а таксама як праяву салідарнасці з тымі, хто не можа дазволіць сабе жаданага ўбрання. За гэты час у кляштары сабралася даволі вялікая калекцыя сукенак. Іх рэстаўрыруюць, пры неабходнасці перашываюць, дапамагаючы нявестам падабраць адпаведныя фасон і памер. На працягу месяца ў кляштар звычайна звяртаецца 6–10 дзяўчат.

*credo.pro; deon.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Пілігрымковае лета 2017

● працяг са с. 1

## III пешая пілігрымка Ліда – Будслаў

**Паломніцтва вырушыць пад дэвізам “Вось сын Твой, вось Маці твая”. Пачнецца 22 чэрвеня св. Імшой у 9.00 у касцёле Узвышэння Святога Крыжа (Фара).**

*Падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: (8 029) 959-51-50, кс. Анджэй Ганчар; (8 029) 614-06-75, кс. Уладзімір Гуляй; (8 029) 589-49-94, кс. Віталій Сідорка.*

## XVIII пешая пілігрымка Смаргонь – Будслаў

**Салезіянская моладзевая евангелізацыйная пілігрымка вырушыць пад дэвізам “Сям’я – месца збаўлення”. Распачнецца 25 чэрвеня св. Імшой у 10.00 у касцёле св. Міхала Арханёла.**

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 389-76-69, кс. Павел Шчарбіцкі SDB.*

## VII пешая пілігрымка Гудагай – Будслаў

**Паломнікі вырушаць пад дэвізам “Маліцеся і навяртайцеся”. Пілігрымка распачнецца 24 чэрвеня св. Імшой у 7.00 у касцёле Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 656-19-25, а. Казімір Мараўскі OCD.*

## Святкаванні ў нацыянальным санктуарыі ў Будславе будуць праходзіць з 30 чэрвеня па 1 ліпеня пад дэвізам “Фацімскае пасланне Марыі – шлях да навяртання”.

**Праграма:**

**30 чэрвеня**

**13.00–17.00** – прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя;
**17.30** – музычная падрыхтоўка да літургіі;
**18.00** – св. Імша;
**20.00** – акафіст у выкананні грэка-каталіцкага хору;
**20.30** – марыйныя Нешпары;
**21.30** – рахунак сумлення;
**22.30** – музычная пастаноўка;
**23.30** – працэсія з фігурай Маці Божай Фацімскай;
**24.00** – св. Імша.

**1 ліпеня**

**02.00** – “Пілігрым пілігрыма зразумее” *(моладзевая евангелізацыйная праграма ў палатачным гарадку);*
**03.00** – св. Імша паводле грэка-каталіцкага абраду;
**04.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
**05.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**06.00** – св. Імша;
**07.00** – “фацімскі” Ружанец;
**08.30** – св. Імша;
**10.00** – прэзентацыя групы дапамогі залежным “Светач”;
**10.20** – прэзентацыя кніг “Про Хрысто”;
**11.00** – урачыстая св. Імша і эўхарыстычная працэсія.





## Пешыя пілігрымкі ў Тракелі

### Гродна – Тракелі

*Траса:* **Гродна – Азёры – Астрына – Забалаць – Пагародна – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 3 ліпеня ў 9.00 *(св. Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя).*
*Адказны:* кс. Павел Салабуда, (8-029) 637-07-17.

### Навагрудак – Тракелі

*Траса:* **Навагрудак – Бярозаўка – Ёдкі – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 5 ліпеня ў 9.00 *(св. Імша ў касцёле св. Міхала Арханёла).*
*Адказны:* кс. Юрый Жэгарын, (8-044) 552-21-99.

### Іўе – Тракелі

*Траса:* **Дуды – Галімшчына – Геранёны – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 3 ліпеня ў 9.00 *(св. Імша ў касцёле Нараджэння НПМ).*
*Адказны:* кс. Ян Гавэцкі, (8-029) 632-21-79.

### Ашмяны – Тракелі

*Траса:* **Ашмяны – Гальшаны – Жамыслаўль – Іўе – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 4 ліпеня ў 7.30 *(св. Імша ў касцёле свсв. апап. Пятра і Паўла ў Барунах у 14.00).*
*Адказны:* кс. Ян Варанецкі, (8 029) 880-92-94.

### Ваўкавыск – Тракелі

*Траса:* **Ваўкавыск – Правыя Масты – Жалудок – Беліца – Ліда – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 3 ліпеня ў 8.00 *(св. Імша ў касцёле св. Вацлава).*
*Адказны:* кс. Аляксандр Вараб’ёў, (8-044) 770-33-12.

## Урачыстасці ў гонар Маці Божай Каралевы Нашых Сем’яў пройдуць у дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях 7–8 ліпеня пад дэвізам “Пасланне Найсвяцейшай Панны Марыі з Фацімы – шлях да пакаяння”.

**Праграма:**

**7 ліпеня**

**да 20.30** – прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя;
**21.00** – марыйныя Нешпары;
– прывітанне фігуры Маці Божай Фацімскай;
– канферэнцыя на тэму “100-годдзе фацімскіх аб’яўленняў. Іх актуальнасць і значнасць сёння для Касцёла і свету”;
**22.30** – выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту;
– эўхарыстычная адарацыя і марыйнае чуванне;
– акт прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Маці Божай і бласлаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам;
**23.30** – падрыхтоўка да св. Імшы;
**24.00** – св. Імша Пастэрка і працэсія з фігурай Маці Божай Фацімскай;

**8 ліпеня**

**02.00** – Ружанец з разважаннем Радасных таямніц;
**03.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці з разважаннем;
**04.00** – традыцыйныя спевы;
**05.00** – канцэрт моладзевага гурта “OPEN”;
**06.00** – Гадзінкі ў гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі;
**07.00** – падрыхтоўка да св. Імшы;
**07.30** – св. Імша, якую цэлебруюць святары юбіляры і новапрэзбітэры;
**09.00** – марыйная ютрань;
**09.30** – падрыхтоўка да св. Імшы (хор “Cantate Domino”, Гродна)
**10.00** – св. Імша і акт аддання дыяцэзіі апецы Маці Божай;
– завяршэнне ўрачыстасці.

# 10 прычын пайсці ў пілігрымку

**Пра тыя ласкі, якія можам атрымаць у намоленых месцах, успамінаць не будзем, бо гэта зразумела. Паразважаем пра тое, які плён можам здабыць яшчэ ў дарозе, чаму варта запланаваць вандроўку.**



### 1. Змена абстаноўкі.

Жыццё, як правіла, нагадвае мноства паўтараючыхся дзеянняў. Чалавек можа стаміцца ад такой руціны. Для бадзёрасці і прыліву сіл псіхолагі рэкамендуюць час ад часу змяняць абстаноўку, выязджаць куды-небудзь. Асабліва ў гэтым маюць патрэбу людзі, якія трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю: ім вострa неабходна пераключыць сваю ўвагу на штосьці іншае.

### 2. Новыя ўражанні і знаёмствы.

Нешта новае заўсёды ўзбагачае чалавека, пакідае ў душы пэўны след. Водгукі на некаторыя падзеі здольны перавярнуць жыццё дагары нагамі. Часам светаўспрыманне кардынальным чынам змяняе малазнаёмая асоба. І пілігрымка адкрывае нас на гэтыя магчымасці!

### 3. Пашырэнне кругагляду.

Кола інтарэсаў і ведаў чалавека абмежавана толькі ў дадзены момант. Яно ўвесь час можа пашырацца – свет неабсяжны. У пілігрымцы мы часта даведваемся пра рэчы, аб якіх раней не чулі, бо сустракаем людзей, што жывуць на другіх землях, па-іншаму думаюць. А гэта, зразумела, робіць нас карыснымі адзін для аднаго.

### 4. Час для душы.

Кожнаму чалавеку калі-нікалі неабходна пабыць

# Пешая пілігрымка Гродна – Адамавічы – Навумавічы

**Паломнікі вырушаць да месца спачыну расстраляных падчас Другой сусветнай вайны жыхароў Гродна і Ліпска. Дэвіз сёлетняй палігрымкі – “Шляхам мучанікаў нашай зямлі”.**

Паломніцтва распачнецца 15 ліпеня. Збор у касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі) у 12.00, дзе адбудзецца супольная малітва, адарацыя Найсвяцейшага сакраманту і бласлаўленне. Пілігрымы прыбудуць на Форт №2 каля Навумавічаў, каб прыняць удзел у св. Імшы ў памяць аб загінулых. Яе пачатак у 19.00.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 286-31-78, кс. Антоній Грэмза.*



# VIII паломніцтва Гродна – Навагрудак

**Тэма пілігрымкі, якая 23–29 ліпеня скіруецца да месца смерці 11-ці бласлаўлёных назарэтанак, гучыць як “Ахвярная малітва сясцёр мучаніц як прыклад малітвы хрысціяніна”.**

Разважанні сёлетняй пілігрымкі будуць прысвечаны малітве і яе ролі ў штодзённым жыцці верніка. Базісам паслужыць тэкст малітвы “Ойча наш”.

**Тэмы на кожны дзень:**

1. Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Тваё.
2. Прыйдзі валадарства Тваё.
3. Будзь воля Твая.
4. Хлеба нашага штодзённага дай нам.
5. І адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым.
6. Не ўводзь нас у спакусу.
7. Збаў нас ад злога.

*Арганізацыйная сустрэча адбудзецца 21 ліпеня ў 20.00 у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).*

*Запіс ажыццяўляецца падчас спаткання альбо па тэлефонах: (8 029) 882-60-88, с. Філатэя; (8 033) 321-26-33, с. Клара.*

# XVI пешая пілігрымка Гродна – Рось

**Дэвіз сёлетняга паломніцтва – “Праз Марыю да Езуса”.**
Пілігрымы вырушаць у санктуарый Езуса Журботнага ў Росі 4 жніўня.
Св. Імша на распачацці паломніцтва адбудзецца ў 7.00 у касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы).

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*



# XXV экуменічная пілігрымка Беласток – Гродна – Вільня

**Юбілейнае паломніцтва пройдзе 16–25 жніўня пад дэвізам “Будзеш любіць”.**

Пілігрымы пераадолеюць шлях працягласцю каля 300 км, наведваючы па дарозе каталіцкія і праваслаўныя святыні. У Гродна вернікі прыйдуць у канцы 3-га дня свайго падарожжа.

# Аўтобусныя пілігрымкі

## Пілігрымка па святынях Еўропы

**Праграма аўтобуснай пілігрымкі, якую ладзіць парафія св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску, уключае наведванне шматлікіх святынь і гарадоў Еўропы.**
**Адбудзецца 17–29 жніўня.**

***Святыні:*** Сабор Парыжскай Маці Божай, лурдскі санктуарый, іспанскі санктуарый св. апостала Якуба, фаціммскі санктуарый Маці Божай, Збавіцельны Храм Святога Сямейства (Саграда-Фамілія), страсбургскі катэдральны сабор Найсвяцейшай Маці Божай.

***Гарады:*** Парыж, Лурд, Страсбург (Францыя); Санцьяга-дэ-Кампастэла, Барселона (Іспанія); Фаціма, Лісабон (Партугалія).

*За дадатковай інфармацыяй звяртацца па тэлефоне: (8 029) 313-65-64, кс. Алег Дуль.*

## Пілігрымка ў Польшчу

**Праграма аўтобуснай пілігрымкі, якую арганізуе парафія ў Каробчыцах, прадугледжвае наведванне вядомых польскіх святынь і гарадскія экскурсіі.**
**Адбудзецца 29 чэрвеня – 2 ліпеня.**

***Маршрут:*** Гродна – Кракаў – Вялічка – Кальварыя Зэбжыдоўска – Чанстахова – Гродна.

*Дадатковая інфармацыя па тэлефонах: (8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

аднаму, каб нішто не перашкаджала. У такія моманты пачынаеш чуць сябе, свой заглушаны ўнутраны голас. На працягу ўсяго шляху пілігрыму прадстаўляецца шмат часу для таго, каб разабрацца з уласнымі думкамі, зрабіць нейкія высновы, ачысціўшыся ад шэрага пласту штодзённасці.

### 5. Магчымасць удасканаліць сваю малітву.

“Каб была магчымасць, я б затрачваў на размову з Богам больш часу”, – напэўна, не аднойчы думаў кожны з нас. У пілігрымцы для гэтага існуе шмат нагод і гадзін. Рэгулярныя і працяглыя моманты сустрэчы з Богам на малітве могуць зрабіць зносіны больш трывалымі і шчырымі.

### 6. Сузіранне прыроды.

Чалавек усё далей і далей ад натуральнай рэальнасці. І ежа ўжо напалову штучная, і адзенне, і дамы. Можна назіраць за тым, як сучаснае пакаленне нястомна працуе над “карэкціроўкай” таго, што створана Богам, альбо будаваннем нечага новага. У пілігрымцы прапануецца адмовіцца ад большасці выгод цывілізацыі і атрымаць асалоду ад яднання з прыродай.

### 7. Нагода ўпэўніцца, што для жыцця неабходна мінімум рэчаў.

Сёння мы, чаго ўтойваць, залежым ад матэрыяльнай рэчаіснасці. Прывязваемся да шматлікіх прадметаў, без якіх не можам уявіць сваё жыццё. Але варта ўсведамляць, што ўсё матэрыяльнае створана для таго, каб палегчыць наша жыццё – не замяняць сабою ўсё. Мы павінны карыстацца рэчамі, а не яны – намі. Пілігрым адпраўляецца ў падарожжа ўлегцы, паклаўшы ў заплечнік самае неабходнае. І асабіста пераконваецца ў тым, што для шчасця патрэбна няшмат.

### 8. Рашэнне нестандартных задач.

Каб перастаць разважаць па шаблону, дастаткова трапіць у неардынарную сітуацыю. Калі хто думае, што ў пілігрымцы ўсё запланавана, адбываецца па накатанай, то ён сур’ёзна памыляецца. Любое падарожжа – гэта своеасаблівая авантура. У кожную хвіліну можа адбыцца тое, чаго зусім не чакаеш. І тады даводзіцца вырашаць задачу па меры магчымасцей. Але які ты герой пасля!

### 9. Спосаб загартавацца ў цяжкасцях.

Складанасці робяць чалавека мацнейшым. У пілігрымцы яны пачынаюцца з прыняцця рашэння пайсці ў вандроўку: часам даводзіцца перапланаваць свой час, нечым паступіцца. Шмат цяжкасцей чакае ў дарозе. Але ўсё гэта дзеля вялікай мэты, вартай таго. Чым больш складаным выдасца шлях, тым саладзей яго фініш.

### 10. Шанс стаць лепшым!

Усё жыццё свядомы чалавек імкнецца да дасягнення нейкага ідэалу. Здараюцца абставіны, прайшоўшы праз якія можна стаць на прыступку вышэй на лесвіцы сваёй дасканаласці. У пілігрымцы таксама даводзіцца пераадольваць выпрабаванні: ахвяраваць сваімі інтарэсамі, працягваць руку патрабуючаму, падтрымліваць бліжняга ў няпростай сітуацыі. Таму хоча асоба таго ці не, але з паломніцтва яна вяртаецца ўжо зусім іншым чалавекам...

*Матэрыялы паласы падрыхтавалі Кінга Красіцкая і Ангеліна Пакачайла*




**CatholicNews.by**

### *Мінск рыхтуецца да сходу іерархаў Еўропы*

***Пленарнае пасяджэнне Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы пройдзе напрыканцы верасня і будзе ўключана ў афіцыйную праграму святкавання 950-годдзя горада Мінска.***

*Падзея збярэ ў сталіцы каля паўсотні кіраўнікоў епіскапатаў з розных краін свету. Форум не будзе абмежаваны выключна пасяджэннем. Чакаюцца штодзённыя літургіі з удзелам гасцей у святынях горада, сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады і праваслаўнай Царквы.*

*Пленарнае пасяджэнне Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы праходзіць раз у год заўсёды ў розных краінах свету. Беларусь абрана сталіцай форуму ўпершыню. Падчас сустрэчы будзе разгледжана сітуацыя ў мясцовым каталіцкім Касцёле, адносіны католікаў з іншымі канфесіямі. Асаблівая ўвага надасца праблемам маладога пакалення.*




### *Святы Айцец благаславіў “алтар малітвы за мір”*

***Ён будзе размешчаны ў санктуарыі ў Нам’янгу (Паўднёвая Карэя) у рамках ініцыятывы “Дванаццаць зорак на кароне Марыі Каралевы Супакою”.***

*Праект рэалізуе асацыяцыя “Супольнасць Каралевы Супакою” з польскага Радама. Ініцыятыва прадугледжвае стварэнне цэнтраў эўхарыстычнай адарацыі і няспыннай малітвы за мір у самых неспакойных кропках свету. Плануецца, што іх будзе 12 (па колькасці зорак на кароне Маці Божай). Ужо створаны 4 месцы адарацыі і малітвы ў інтэнцыі міру: у Іерусаліме (Ізраіль), Меджугор’і (Боснія і Герцагавіна), Азёрным (Казахстан) і Ямусукры (Кот-д’Івуар).*




### *Кардынал Равазі адкрыў незвычайны музей*

***Ён знаходзіцца ля ўваходу ў катакомбы св. Даміцылы пры Віа Ардэаціна, што на поўдні Рыма.***

*Плошча музея ахоплівае 10 гектараў. На яго тэрыторыі – 12 км падземных калідораў, 228 пахавальных склепаў, 650 кубікулаў (пахавальных ніш). Агулам там знаходзіцца звыш 26-ці тысяч магіл.*

*Падземныя хады ў канцы XVI стагоддзя былі выпадкова знойдзены 19-гадовым Антоніа Бозіа, якога ў сувязі з гэтым пазней празвалі Калумбам рымскіх катакомбаў.*

*Кінга Красіцкая*

## Дзень засяроджання прайшоў у гродзенскай семінарыі

*Сёлетнія духоўныя практыкаванні прыпалі на свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.*

Падчас апошняга дня засяроджання ў бягучым навучальным годзе клерыкі ВДС мелі магчымасць зрабіць рахунак сумлення адносна таго, як быў выкарыстаны час, дадзены Богам на здабыванне ведаў і ўзбагачэнне іншымі духоўнымі каштоўнасцямі. Разважаючы падчас літургіі над Пасланнем да Габрэяў, семінарысты спрабавалі адказаць сабе на пытанне: "Ці сапраўды Хрыстос з'яўляецца для мяне ўзорам святарства, да якога імкнуся?".

Аднавіць адносіны з Езусам, глыбей пазнаць самім сябе, паглядзець на жыццё з адлегласці навучэнцам дапамагаў кс. Віталій Дабраловіч, дырэктар



Нацыянальнага "Карытас". Падчас духоўных практыкаванняў рэкалекцыяніст уводзіў будучых святароў у таямніцу Святой Тройцы, спазнанне якой, як зазначыў, адбываецца толькі праз цеснае супрацоўніцтва з Божай ласкай.

## У Гродне развіталіся з кс. Янам Шуткевічам

*Св. Імша ў інтэнцыі спачылага адбылася ў касцёле Адшукання Святога Крыжа. Святара пахавалі на гродзенскіх могілках побач з маці.*

У літургіі, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, прынялі ўдзел мясцовыя іерархі, а таксама святары з Гродзенскай і Віцебскай дыяцэзіі, Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У гаміліі арцыбіскуп Тадэвуш адзначыў, што святар служыў усім народам і культурам, "нікога не дзяліў, ахвяроўваўся і беларусам, і палякам, і літоўцам". У гісторыю Касцёла ён увайшоў як выдатны рэстаўратар, бо асаблівым клопатам атачаў святыні: аднаўляў іх, адбудоўваў. "Ты пакінуў пасля сябе вялікі след, бачны ў шматлікіх касцёлах Беларусі і Літвы", – сказаў архіпастыр.

Падчас св. Імшы прысутныя дзякавалі Пану за дар жыцця святара, якога Божы Провід накіраваў служыць Касцёлу ў Беларусі, а таксама маліліся ў інтэнцыі вечнага супакою душы памерлага.

Кс. Ян Шуткевіч нарадзіўся 3 ліпеня 1932 года. Фармацыю да святарства праходзіў у духоўнай семінарыі ў Каўнасе



(Літва). Затым працаваў у Віцебскай дыяцэзіі. З 1987 па 1994 год служыў пробашчам парафіі св. апостала Андрэя ў Лынтупах. Дзякуючы яго намаганням быў адноўлены касцёл св. Антонія Падуанскага ў Паставах. У гэты самы час служыў у парафіях ў Камаях і Лучаі. Адбудаваў капліцы ў Груздове, Манькавічах, Мегунах. У 1994–1997 гадах выконваў абавязкі пробашча мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Прычыніўся да рэстаўрацыі святыні. Апошнія гады свайго жыцця нёс паслугу ў Вільнюсе (Літва), дзе выконваў абавязкі рэктара і рэзідэнта касцёла св. Барталамея.

## Біскуп Кашкевіч прыняў удзел ва ўрачыстасцях пасвячэння Мітрапаліта Беластоцкага

*Цырымонія біскупскага пасвячэння і інгрэсу ў архікатэдру арцыбіскупа Тадэвуша Войды SAC адбылася ў Беластоку. Яе ўзначаліў кардынал Фернанда Філоні, прэфект Кангрэгацыі па справах евангелізацыі народаў.*

Падчас урачыстасці арцыбіскуп Эдвард Азароўскі, які выходзіць на пенсію, перадаў новаму Мітрапаліту пастарал, з якім прыбыў у Беласток у 1945 годзе Мітрапаліт Віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Такім чынам арцыбіскуп Тадэвуш быў сімвалічна ўключаны ў гісторыю Віленскай архідыяцэзіі і Беластоцкай архідыяцэзіі, якая з'яўляецца яе працягам.

Ад імя ўсіх, хто ўтварае Касцёл на Гродзеншчыне, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч перадаў новаму Мітрапаліту Беластоцкаму сардэчныя віншаванні.



Іерарх падкрэсліў, што Беластоцкая архідыяцэзія вельмі блізкая Гродзенскай дыяцэзіі, бо мае тыя самыя карані, што выходзяць з Віленскага Касцёла.

На заканчэнне літургіі арцыбіскуп Тадэвуш Войда SAC падзякаваў усім прысутным на гэтай урачыстасці і ўдзяліў пастырскае блаславенне.

## Гурт "AVE" выступіў з канцэртам у парафіі св. Мікалая ў Геранёнах

*Семінарысты наведалі парафіяльную супольнасць ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы па запрашэнні новага пробашча кс. Дзмітрыя Несцера.*

Клерыкі прынялі ўдзел у Эўхарыстыі, падчас якой разам з прысутнымі маліліся аб новых пакліканнях да святарскага і манаскага жыцця з гэтай парафіі.

Пасля св. Імшы на ганку парафіяльнага дома семінарысты далі канцэрт для жыхароў мястэчка. Спевы і танцы спадабаліся як дзецям, моладзі, так і старэйшым людзям. На заканчэнне ўдзельнікі музычнага гурта падзякавалі



кс. Дзмітрыю за запрашэнне і выказалі спадзяванне, што візіты ў геранёнскую парафію стануць добрай традыцыяй.

## У Верцялішках адбылося асвячэнне фундамента святыні

*Урачыстасць пачалася ўнясеннем рэліквій блаславёных назарэтанак-мучаніц з Навагрудка.*

Гэты жэст з'яўляецца вельмі важным і сімвалічным, бо адна з мучаніц – с. Марыя Барамэя (Вераніка Нармантовіч) – паходзіць з Верцялішак і быццам зноў вярнулася на сваю радзіму. Але ўжо не адна, а ў атачэнні паплечніц, каб ахапіць асаблівай апекай сем'і мясцовай парафіяльнай супольнасці.

У якасці заступнікаў касцёла вернікі абралі Святую Сям'ю: Езуса, Марыю і Юзафа. Даверылі Ім справу будаўніцтва святыні, спадзеючыся, што дзякуючы дапамозе Святой Сям'і і ахвярнасці людзей добрай волі паўстане новы дом для Пана. (Парафія заснавана ў 2015 годзе).

Св. Імшу ў інтэнцыі ўсіх, хто ўтварае мясцовую супольнасць, цэлебраваў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.



Іерарх выказаў падзяку ўсім, хто актыўна ўдзельнічае ў справе ўзвядзення святыні. Пажадаў, каб з Божай дапамогай удалося стварыць месца малітвы, дзе вернікі змогуць сустракацца з Усемагутным.

Падчас урачыстасці 26 чалавек прынялі сакрамант канфірмацыі. Біскуп заахвоціў іх стаць у штодзённым жыцці жывым прыкладам Евангелля.

## Вернікі парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах прынялі сакрамант канфірмацыі

*Моладзь была адпаведна падрыхтавана праз споведзь, слуханне Божага слова і супольную малітву.*

На пачатку св. Імшы кандыдаты і іх бацькі звярнуліся з просьбай аб удзяленні сакраманту хрысціянскай сталасці да біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. Пробашч кс. Віктар Ханько выказаў перакананне, што тыя, хто ў гэты дзень умацоўца дарамі Святога Духа, яшчэ мацней з'ядналюцца з Богам праз далейшае дзейснае ўключэнне ў жыццё парафіяльнай супольнасці. Святар дадаў, што яны павінны стаць у сучасным свеце сапраўдным святлом.

У гаміліі кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, узгадаў пра сутнасць Найсвяцейшай Тройцы, урачыстасць у гонар якой адзначалася ў той дзень. "Мы ведаем, што трэба старацца, каб нашы душы былі святынямі Найсвяцейшай Тройцы. Ведаем, што



для гэтага павінны жыць у стане асвячальнай ласкі", – адзначыў святар.

На заканчэнне літургіі біскуп Аляксандр звярнуўся да канфірмаваных. Запрасіў кожнага ісці з Усемагутным праз жыццё і дзяліцца Ім з акружаючымі. Іерарх падкрэсліў, што варта пастаянна супрацоўнічаць з Богам у Тройцы Адзіным, які заўсёды жадае чалавеку шчасця.

## АНОНСЫ

### 100-ГОДДЗЕ ПАРАФІІ АДЗНАЧАЦЬ У ЗАНЕВІЧАХ

**Юбілей святкуюць мясцовыя вернікі на чале з пробашчам кс. Валерыем Быкоўскім.**

Св. Імша ў вігілію ўрачыстасці адбудзецца 24 чэрвеня ў 18.00 у капліцы бл. Цэліны Бажэнцкай у Абрэмшчыне. Літургія з нагоды юбілею будзе цэлебравана 25 чэрвеня ў 12.00 у касцёле Найсвяцейшага Сэрца Езуса і св. Язафата Кунцэвіча ў Заневічах. Парафія створана ў 1917 годзе. У тым жа годзе пабудаваны і асвечаны касцёл.

*На ўрачыстасць запрашаюцца духоўныя і свецкія асобы.*

### ГРОДЗЕНСКАЯ СЕМІНАРЫЯ АБ'ЯЎЛЯЕ НАБОР НОВЫХ КАНДЫДАТАЎ

**Паступленне на 2017/2018 навучальны год будзе праходзіць у 2 туры. Уступныя экзамены адбудуцца 10 ліпеня і 7 жніўня (семінарыя прапануе начлег напярэдадні іспыту). Кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.**

**Спіс дакументаў для паступлення:**

1. заява з просьбай аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;
2. уласнаручна напісаная аўтабіяграфія;
3. атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы;
4. пасведчанне аб сакраманце хросту;
5. пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі;
6. пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;
7. характарыстыка ад пробашча;
8. медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ;
9. пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31–33);
10. ваенны білет (прыпісное пасведчанне) і яго ксеракопія;
11. 4 фотаздымкі (3х4 см).

*Прыём дакументаў праходзіць у рэктарацэ семінарыі кожны дзень (акрамя нядзелі і ўрачыстасцей) па папярэднім запісе.*
*Адрас: г. Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1.*
*E-mail: wsd@grodnensis.by. Тэлефон: (8 0152) 77-02-34.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ВДС

**Духоўныя практыкаванні на тэму "Міласэрныя, як Айцец" пройдуць 3–6 жніўня. Да ўдзелу запрашаюцца юнакі, асабліва міністранты ад 14-гадовага ўзросту.**

Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі. Падчас сустрэчы можна будзе ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы, перажыць хвіліны цішыні, паразважаць над уласным жыццёвым шляхам і запытаць сябе: "Да чаго мяне кліча Бог?".
З сабой трэба мець компжу і спартыўнае адзенне.
Аб удзеле ў рэкалекцыях неабходна паведаміць да 1 жніўня.
Колькасць удзельнікаў абмежаваная.

*Больш падрабязная інфармацыя па тэлефонах:*
*(8 029) 695-24-69, кс. Валерый Быкоўскі; (8 029) 744-99-61, кс. Андрэй Лішко.*
*Запіс па тэлефоне: (8 0152) 77-02-34, семінарыя.*

### АЙЦЫ ПІЯРЫ ЗАПРАШАЮЦЬ НА КАНСЭКРАЦЫЮ СВЯТЫНІ Ў ЛІДЗЕ

**Знамянальная падзея адбудзецца ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (Індустрыяльны), будаўніцтвам якога займаліся святары з Ордэна пабожных школ.**

Урачыстасць пройдзе 25 жніўня, у літургічны ўспамін св. Юзафа Каласанса, што з'яўляецца апекуном святыні. Пачатак св. Імшы ў 18.00. Кансэкрацыю здзейсніць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч пры ўдзеле дапаможнага біскупа дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.
Парафія створана ў 1998 годзе. Касцёл асвечаны 25 жніўня 2008 года.

*Адрас касцёла: г. Ліда, вул. Пралыгіна, 2.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**18 чэрвеня 1954 г.** – кс. канонік Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**19 чэрвеня 1942 г.** – кс. Пётр Аранскі, *проб. Гальшаны;*
**19 чэрвеня 1955 г.** – абп Рамуальд Ялбжыкоўскі, *Мітрапаліт Віленскі;*
**21 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Сташэліс, *проб. Сурвілішкі;*
**22 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Зубковіч, *проб. Трабы;*
**25 чэрвеня 1939 г.** – кс. Тамаш Калінскі, *проб. Міжэрычы;*
**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# ЯК ТРЭБА АПРАНАЦЦА Ў КАСЦЁЛ



**З прыходам лета дзверы касцёлаў падчас літургіі адчыняюцца, людзі апранаюцца лягчэй. Але наколькі адкрытае адзенне дазволена насіць? Дзе мяжа прыстойнасці?**

Спецыяльнага дакумента, які б указваў на дрэс-код, патрэбны для наведвання святыні, не існуе. Але тое, што падобныя правілы не прапісаны, не вызваляе чалавека ад абавязку насіць належнае для культавага збудавання адзенне. Наадварот, асоба нясе за гэта яшчэ большую адказнасць. Калі б існавалі задакументаваныя нормы, чалавек мог бы проста адмахнуцца, што не ведаў іх, таму не прытрымліваўся. А з-за неабходнасці прыняць самастойнае рашэнне ў дадзенай сітуацыі ён поўнасцю адказны за свой выбар.

Нормы рэгулюююцца этыкетам, які абапіраецца на сумленне самой асобы, што прыйшла ў Божы дом. Усемагутнаму, канешне, няма розніцы, як апрануты вернікі – Ён глядзіць у сэрца, а можа быць прычынай, па якой цэнтрам засяроджання бліжняга ў месцы, дзе патрэбна суцішыцца на малітве, стане не Бог, а яго персона. Увага – свядома ці несвядома – можа адцягвацца на непатрэбныя рэчы. І калі хтосьці выкажацца, нібы гэта праблема таго чалавека, то прадэманструе натуральны эгаізм. Мы не павінны замяніць сабою іншым, даваць падставу для зараджэння грахоўнай рэчаіснасці.

> Можа здарыцца так, што чалавек вырашыў зайсці ў святыню спантанна. Знешні выгляд, які можа не зусім адпавядаць, не павінен спыніць яго на прыступках. Куды больш важная духоўная вопратка, у якую апранулася душа праз парыў сэрца.

не на вопратку. Наша ўбранне, перш за ўсё, сведчыць пра ўласную культуру, павагу да сябе і тых, хто побач.

Знешні выгляд чалавека

Дык як жа належыць выбіраць убранне для паходу ў святыню? Па-першае, адзенне павінна быць чыстае. Па-другое, павінна мець ахайны выгляд. Вопратка не можа быць падзёртай ці мятай. Па-трэцяе, мусіць адпавядаць настрою святыні, дзе варта задумацца аб той святасці, на парозе якой стаім, а таму адзенне павінна быць сціплым, няяркім. Важна, каб былі прыкрыты плечы і калені, жывот і вобласць дэкальтэ. Непажадана апранацца ў адзенне з буйнымі прынтамі, лагатыпамі, надпісамі, якія адцягваюць увагу. Яшчэ горш, калі ўладальнік не ведае пра іх паходжанне і значэнне. Гэтая норма ні ў якім разе не павінна ўспрымацца як перажытак мінулага ці нешта такое, што беспадстаўна абмяжоўвае свабоду чалавека. У доказ гэтаму давайце ўзгадаем форму дзелавога стылю. У ім недапушчальны бляск, разнастайныя паеткі і стразы, таму што такі стыль характарызуецца строгасцю і стрыманасцю. Свядомы чалавек ніколі не апранецца падобным чынам на субяседаванне, так як яго можа няправільна зразумець працадаўца. З якім намерам прыйшоў суіскальнік? Навошта ён так ярка падкрэслівае свой знешні выгляд? А цяпер давайце перанясёмся ў тым жа ўбранні ў святыню. Узнікае такое ж пытанне: "Навошта?".

Трэба памятаць аб тым, што любая вопратка мае сваё прызначэнне. Напрыклад, купальны касцюм патрэбны для плавання, спартыўны – для трэніровак. Недарэчна было б апрануць працоўную форму ў госці або зімовы пухавік летам. Калі ідзём у святыню, варта зірнуць у люстэрка і задумацца: "Для якой мэты прызначана маё ўбранне?".

Ніякі канон не забараняе жанчыне насіць штаны. Але спадніца або сукенка мае больш урачысты характар,

> Часам асоба, якая не клапоціцца аб унутранай прыгажосці, спрабуе кампенсаваць гэта ў знешнім выглядзе.

нагадваючы жанчыне, якім прыгожым стварэннем яе задумаў Бог. Мужчыны выглядаюць элегантна ў гарнітурах. Менавіта па гэтай прычыне святары заахвочваюць паству апранацца такім чынам, каб паход у святыню меў святочнае вымярэнне.

Шмат сумненняў узнікае ў людзей летам, калі тэмпература на тэрмометры можа дыктаваць свае правілы. З аднаго боку, трэба прытрымлівацца норм этыкету, а з другога – не хочацца самлець у святыні. У такім выпадку патрэбны кампраміс. Так як плечы і калені павінны быць закрыты і ў спякотнае надвор'е, варта аддаць перавагу светлым танам у адзенні і лёгкім тканінам, якія прапускаюць паветра (бавоўна, лён).

Калі вы бачыце, што нехта апранаецца ў святыню "няправільна", не трэба браць на сябе ролю касцёльнага наглядчыка і (нібы з добрых пабуджэнняў) гнаць такога чалавека за брамы. Вы можаце адштурхнуць яго ад веры, бо ёсць верагоднасць, што асоба больш не вернецца ў святыню. І тады адказнасць за гэты праступак панясеце перад Богам абодва.

*Ангеліна Пакачайла*






*Кс. Ян Кучынскі*

***У многіх касцёлах моманты, калі трэба станавіцца на калені падчас св. Імшы, адрозніваюцца. Чаму так адбываецца?***

*У Касцёле на тэрыторыі нашай краіны на працягу доўгага часу панавала традыцыя Трыдэнцкага сабору, нягледзячы на тое, што ўжо адбыўся II Ватыканскі сабор. З-за недахопу душпастыраў, вернікі не маглі сачыць за зменамі ў літургічнай рэформе. Пасля ўзнікнення ў 1991 годзе Гродзенскай дыяцэзіі да нас прыбыло шмат святароў з розных краін, парафій, манаскіх ордэнаў. Яны пачалі будаваць парафіяльныя супольнасці амаль ад пачатку. Кожны з іх уводзіў звычаі і традыцыі, вынесеныя з папярэдніх месцаў паслугі. Па гэтай прычыне ўзнікла путаніца адносна паставы верніка падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі. Каб вырашыць дадзеную праблему, біскуп Гродзенскі ў 1995 годзе выдаў дэкрэт "Аб удзеле вернікаў у св. Імшы паводле літургічных канонаў, беручы пад увагу мясцовы звычай і згодна з літургічным правам". Гэты дакумент абавязваў як вернікаў, так і духоўных асоб. На жаль, у многіх парафіях святары не ўвялі яго ў практыку, таму пастава людзей падчас св. Імшы ў розных касцёлах можа адрозніваецца (хоць дэкрэт абавязвае па сённяшні дзень).*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Адпустовая ўрачыстасць св. Антонія адбылася ў Адэльску

У родную парафію Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча з'ехаліся шматлікія вернікі, каб праз заступніцтва вялікага святога даверыць Богу свае цяжкія справы. Сёлетнюю ўрачыстасць узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Падчас св. Імшы іерарх таксама ўдзяліў мясцовым вернікам сакрамант канфірмацыі.











# ЧАМУЧКІ

Дзіцячая рубрыка

## Чаму людзі ідуць у пілігрымку?

Пілігрымка – гэта падарожжа вернікаў да святых месцаў. Людзі ідуць туды, каб падзякаваць Пану за атрыманыя ласкі, пакаяцца, абнавіць і ўдасканаліць духоўнае жыццё. Бог бачыць жаданне наблізіцца да Яго і дапамагае чалавеку, выкарыстоўваючы святыні ў якасці праваднікоў сваёй ласкі.

Паломніцтва з'яўляецца цудоўнай магчымасцю засярodзіцца на малітве, папрасіць дапамогі Усявышняга. Гэта таксама адзін са спосабаў сведчання пра Хрыста, шанс адкрыцца на бліжняга, які ідзе побач, пазнаць яго, даць магчымасць убачыць Хрыста, Яго любоў і самому адчуць прысутнасць Усемагутнага. Няхай сведчаннем таму будзе апавяданне Максіма Максімава "Два цесляры-паломнікі".

**Доўгія гады ў двух сяброў цесляроў была агульная мара – наведаць Палесціну. Але заўжды праца ўтрымлівала іх ад таго, каб зрабіць першы крок да сваёй мары.**

**Час ішоў, справы паступова выраашыліся. І сябры дамовіліся вырушыць у падарожжа наступнай вясной.**

**У вызначаны дзень яны сустрэліся. Адзін быў улегцы, другі – з поўным наборам плотніцкіх інструментаў.**

**Першы здзівіўся:**

**– Ты што, сябра? Мы ж пілігрымы! Па дарозе абавязкова сустрэнем добрых людзей. Тыя, хто ведаюць, куды мы ідзём, лічаць святой справай нам дапамагчы. Навошта табе ўсё гэта?**

**Другі адказаў:**

**– Я разумею. Але, быць можа, каму-небудзь мая дапамога будзе патрэбная...**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*



## Заданне:

**памаліся за ўсіх пілігрымаў, якія крочаць у дарозе да святых месцаў.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Ханько**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Жывіце як мага даўжэй!

*Харысты пабернардынскага касцёла ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Грэмзу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мудрасці, цярплівасці. Дзякуем за нязгасны запал на нялёгкім святарскім шляху ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом, ласкай. Няхай добры Бог адорвае блаславеннем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка"*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Антоній Філіпчык!**

З нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Жадаем сапраўднай радасці і супакою. Дзякуем за шчырую малітву і ахвярную працу.

*Францішканскі ордэн свецкіх і касцёльны хор*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Адамовічу**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай душа заўсёды будзе адкрытай і чыстай, напоўненай агнямі веры і надзеі. Няхай Ваша шчырая малітва і добрае слова заўсёды дораць людзям яркі свет і натхненне. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, душэўнага супакою, святла Святога Духа, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Да віншаванняў далучаем малітву, а Вашу паслугу даручаем Маці Божай.

*Парафіяльная рада і вернікі з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды 30-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем адчуваць радасць ад выконваемай паслугі, накіроўвацца Божай дарогай да святасці, а таксама шчодрых ласкаў ад нашага Пана і мноства дароў Святога Духа.

*Валера, Вераніка і Яна*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіміру Гуляю**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем нязгаснага запалу веры, моцнага здароўя, сіл і радасці. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а Найсвяцейшая Маці – заступніца святароў – заўсёды Вамі апекуецца, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт, Ліда-Фара*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай у Вашым жыцці будзе больш цяпла, зразумення, падтрымкі ад людзей. Няхай добры Бог адорвае радасцю, цярплівасцю і апраменьвае сваім святлом, а святы Заступнік абараняе кожны дзень. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады. Шчыра дзякуем Вам за цудоўныя павучальныя казанні.

*З малітвай, удзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет шчырых, сардэчных пажаданняў. Няхай добры Бог памнажае Вашу веру, дае шмат сіл, здароўя, Святы Дух шчодра адорвае мудрасцю, Маці Божая няспынна ахінае сваёй апекай і любоўю, а святы Ян Хрысціцель заўсёды будзе Спадарожнікам і Заступнікам ва ўсіх жыццёвых справах. Жадаем таксама людской зычлівасці і любові ад кожнага чалавека, якога сустрэнеце на сваім шляху. Няхай атрымліваецца тое, пра што іншыя і марыць не маглі. Дзякуем за супольную малітву, сонечную ўсмешку, чулае і добрае сэрца. Бясконца ўдзячныя Вам за распалены агонь нашай веры. Аддзяч, Божа!

*Касцёльны камітэт, апостальства "Маргарытка", малітоўная група МБ Кангрэгацкай, Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, міласэрны Бог нястомна ўмацоўвае Вас у пакліканні, адорвае патрэбнымі ласкамі ў кожную хвіліну жыцця, а Марыя ахінае мацярынскай апекай. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*З малітвай, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай жыццё праходзіць у здароўі і радасці, Дух Святы дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і адорвае шчодрымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы кожны дзень, а добры Бог блаславіць.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці, святла Святога Духа і сталай апекі Панны Марыі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць і блаславёны плён.

*Ружанцовае кола МБ Анёльскай, Каробчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Пузыну**

з нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Жадаем моцнага здароўя, шмат сіл, радасці і задавальнення ад выконваемай душпастырскай паслугі, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі. Шчыра дзякуем за клопат аб нас і нашай святыні.

*З малітвай і глыбокай павагай, парафіяне з Ашмянаў*

**Паважаным Ксяндзам Яну Кузюку і Яну Варанецкаму**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, нястомнасці ў службе Богу і людзям і толькі радасных хвілін жыцця. Дзякуем за тое, што Вы побач у кожнай патрэбе, дзеліцеся з намі дабрынёй і спагадлівасцю. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца Вамі і дапамагае ў святарскім служэнні.

*З малітвай і глыбокай павагай, вернікі з Ашмянаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых намераў, а таксама зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху. Шчыра дзякуем Вам за час, які ўдзяляеце нам.

*Вернікі з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам у адданай паслузе Богу і людзям, Панна Марыя атуліць мацярынскім плашчом і цеплынёй свайго сэрца, ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітвы і цярплівасць да нас. Няхай міласэрны Бог блаславіць Вашых бацькоў.

*Легіён Марыі, група Добрага Пастыра і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Гродна-Вішнявец*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, зычлівасці ад людзей, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Няхай Пан Бог адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, супакою ў сэрцы, моцнага здароўя, добразычлівых людзей на святарскім шляху і поспехаў у дасягненні пастаўленых мэт.

*Верныя парафіяне з Воўпы, а таксама парафіянкі з в. Гледнявічы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і перайманні Хрыста. Няхай усемагутны Бог, які ўказаў Вам жыццёвы шлях, узнагародзіць за веру, любоў да бліжняга і пашану да кожнага чалавека, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды па-мацярынску Вамі апекуецца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды 4-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў і надыходзячых Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: моцнага здароўя, шчасця, радасці ў сэрцы, шмат сіл і стойкасці, шчодрых дароў Святога Духа, зычлівых людзей побач. Няхай міласэрны Бог адорвае ласкай і супакоем, дапамагае ў вучобе і паслузе, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік штодзённа ахінаюць сваёй любоўю і апекуюцца Табой.

*Бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважаны Ксёндз Ян Залога!**

З нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог, які ўказаў Вам дарогу да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае перамагаць усе цяжкасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў, благаслаўлення ад Усемагутнага і толькі радасных хвілін у жыцці. Няхай Езус Хрыстус будзе Праваднікам на ўсіх жыццёвых шляхах, Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі і будзе побач.

*Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Панны Марыі і нястомнай дапамогі святога Заступніка.

Імя такое мае не кожны.
І Вы для нас вельмі важны.
Са сваім Заступнікам звязаны,
Святой Паннай пешчаны,
Богам моцна каханы.

Дзякуем за чуласць, шчырасць, адкрытасць, сардэчнасць, падтрымку і за тое, што заўсёды моліцеся за нас. Жадаем здароўя, вытрымкі, радасці і добразычлівых людзей побач.

*Парафіяне, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды 20-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, стойкасці, Божай дапамогі, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Пан Езус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, будзе шчодры на свае ласкі і напаўняе Вашае чулае сэрца супакоем. Мы вельмі ўдзячны Вам за адданую працу, цудоўны прыклад набожнасці, а таксама за добрае слова для кожнага з нас. Заўсёды памятаем пра Вас у сваёй малітве. Доўгіх гадоў жыцця!

*Парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках і касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў Трабах*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог узнагародзіць моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі, атуляючы сваім плашчом і цеплынёй свайго сэрца, а Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за малітву, зычлівасць, усмешку і добрае сэрца.

*Парафіяне з Поразава і Свіслачы*

**Паважаным Айцу Андрэю Ядкоўскаму і Сястры Антаніне Вайцяшчук**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, нястомнасці ў паслузе на карысць Богу і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая заўсёды апекуецца. Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Імянін і 12-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем самыя сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Ваш святарскі шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Жадаем таксама здароўя, радасці і сілы ў штодзённай душпастырскай паслузе.

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, радасці, моцнага здароўя. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, малітву і добрае сэрца.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства гарачых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю, верай і даверам. Жадаем шмат прычын для ўсмешкі. Няхай здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай. Дзякуем за ахвярную працу, зычлівасць і абвяшчэнне Божага слова. Няхай Вас акружаюць сябры, якія ў складанай сітуацыі пададуць далонь дапамогі. Няхай усе святыя апекуюцца Вамі. Аддзяч, Божа!

*Парафіяне з Каменкі і Капцёўкі*

**Дарагой Сястры Антоніі**

ў дзень Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: патрэбных ласкаў ад Стварыцеля, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і дапамогі святога Антонія. Дзякуем за тое, што Вы з намі.

*Дзеці, бацькі і Ганна Н. з парафіі св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Пан Езус благаслаўляе Вас кожны дзень, адорвае моцным здароўем, цеплынёй, любоўю і радасцю. Годна перажывайце ўсе цяжкасці, а паслуга на карысць Богу і людзям няхай прыносіць задавальненне і шчодры плён. Марыя няхай ахінае Вас сваёй мацярынскай апекай, а Святы Дух удзяляе патрэбныя ласкі і дары.

*Былыя парафіяне з Кемелішкаў*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Радзюк!**

З нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Вам патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі святога Заступніка і ўсяго найлепшага. Няхай планы і намеры рэалізуюцца, а Маці Божая нястомна падтрымлівае на шляху да святасці. Дзякуем Богу за Вас, а Вашым бацькам – за сына святара.

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Імянін жадаем Божых ласкаў, здароўя, сіл, нястомнасці ў нялёгкай душпастырскай працы. Дзякуем Пану і ўсім святым за Вас, такога добрага і сардэчнага святара, за навучанні, абвяшчэнне Божага слова, зерне якога закладваеце ў нашыя сэрцы.

*Удзячныя парафіяне з в. Уселюб*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку, яго маме і ўсім родным**

у сувязі са смерцю бацькі выказваем словы шчырага жалю, спачування і хрысціянскай падтрымкі. Яднаемся з Вамі ў малітве, падзяляючы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог прыме спачылага ў сваё Валадарства, а Вам дасць сілы, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для памерлага.

*Парафіяне з Цудзенішкаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2997; тыраж 4970; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная